facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2022-11-10)

# (6) Facebook

---

ВЯСЁЛАЯ АРАБЕСКА ПРА АРАТАРСКАЕ МАЙСТЭРСТВА І «РУСКІЯ» СУСТРЭЧЫ Ў ЧАЛЯБІНСКУ

Псіхолагі і метадысты мяркуюць, што моўныя арабескі – надзвычай прыдатны жанр для усталявання ў нэйроннай сістэме асобы ўстойлівай і дынамічнай сувязі паміж метафарычнымі асацыяцыямі і сістэмнымі ведамі. У сённяшнім тэксце – закапана тузінаў пяць а мо і болей (!) такіх пэрлін. Гледзячы як лічыць. Колькі знойдзеце вы?

Калі верыць патрыятычным галівудзкім тэарэтыкам, то гульня “Што? Дзе?Калі?” нарадзілася не сярод савецкіх яўрэйскіх разумнікаў, а яшчэ ў салунах на дзікім Захадзе, дзе не толькі заклікалі не страляць ў піяністаў, але і разыгрывалі жывыя сюжэты, што патрабавалі лоўкасці і эўрыстычнага розуму. Ёсць меркаванне, што надзвычай папулярны фільм “Magnificent Seven”-- у савецкім пракаце называўся “Великолепная семёрка» -- ўзнік як адаптацыя філасофскай драмы Курасавы ”Сем самураяў” і жэст пратэсту інтэлектуальнага рэжысэра Джона Стэрджэса супраць устойлівых еўрапейскіх стэрэатыпаў пра абсалютную другаснасць амерыканскай культуры, як сімулякр еўрапейскай. Яшчэ будучы капітанам ЗВС ЗША ён майстраваў дакументальныя навучальныя фільмы для маладых лётнікаў.

Чаму раптам такі уступ, запытаеце вы. Паглядзіце на фота пасля тэксту. Паспрабуйце, як інтэлектуалы-эўрысты, здагадацца, што можна знайсці агульнае ў Джорджа Вашынгтана, старазапаветнага Майсея, Дэмасфена і Яна Хрызастома Залатавуснага ў парадыгме аратарскага майстэрства?

З Дэмасфенам і Залатавусным Янам адносна няцяжка разабрацца. Дэмасфен пазбаўляўся ад сваёй касназыкасці і каструбаватасці

прамоўніцтва, калі, набраўшы ў рот камянькоў і ракавінак з пяском, штодня ў медыяцыйнай адзіноце крычаў казані на беразе мора насустрач прыбою і стараўся перакрычаць шум морскіх хваляў. Ян таму і Залатавусны, што меў Боскую Харызму (дарунак) прыгожа гаварыць. Да сёння ў еўрапейскіх мовах ёсць метафарычныя апелятывы Goldmund (ням.), bocca d’oro (іт., -- адсюль сетка рэстаранаў Bocca D’Oro), ангельскае silver-tongued (“срэбравусны”) і г. д.

А што ж Майсей і Джордж Вашынгтон?

Пра Майсея таксама не вельмі цяжка. Хто ўважліва чытаў пра дзяцінства гэтага вялікага прарока, ведае, што ён быў моўны нявывалака, заікасты, каструбаваты на язык (царк.сл – неречистый, худогласый, тяжелоустый), таму што некалі абпёк кончык языка гарачым вугалём. Выхоўваючыся ў доме егіпецкага фараона (іўр. פרעה [паро]; у Септуагінце Φαραώ) , Майсей аднойчы, гуляючы, надзеў на галаву фараонаўскую карону, што было зразумета як знак таго, што ён – будучы збавіцель гебраяў, і яго хацелі забіць. Мудрацы прапанавалі спраўдзіць, зрабіў ён гэта з розумам ці як някемнае дзіця. Паклалі перад ім кавалачак золата і гарачы вугалёк і чакалі, што ён схопіць як цацку. Майсей схапіў вугалёк і пацягнуў у рот, -- як гэта звычайна дзеці пазнаюць усё першы раз на свеце праз рот. І абпёк язык. Язык як бы адубеў. Потым Аарон, першасвятар, стаў ягоным вусным “спічрайтэрам”, што агучваў гебрайскай грамадзе мудрасці вялікага прарока. З таго часу кажуць пра вялікую розніцу касназыкасці Майсея і вар’ята. .

Запрашаю вас усміхнуцца ў арабэскавай навеле пра Джорджа Вашынгтона: паводле вусных паданняў пра бацькоў амерыканскай Канстытуцыі, Біль аб правах і г. д. суровы выраз твару першага Прэзідэнта ЗША (дарэчы, беспартыйнага) Джорджа Вашынгтона, які адлюстраваны на купюры 1 даляр, тлумачыцца тым, што … у час фатаграфавання ён РАЗНОШВАЎ НОВЫ ЗУБНЫ ПРАТЭЗ і шапялявіў.

ПРА “РУСКІЯ СУСТРЭЧЫ” НА ЧТЗ

ЧТЗ – скарот для “Чалябінскі трактарны завод”. Было гэта ў 1972 г. Працуючы ўжо інжынерам 3-й катэгорыі (на пачатку быў “б/к”) на ММВЗ і будучы няштатным перакладчыкам Беларускай гандлёвай палаты і студэнтам Маскоўскага завочнага інстытута патэнтазнаўства, быў я камандзіраваны на Чалябінскі трактарны завод прадстаўляць “рэспубліку”

.

Камандзіроўка тая запомнілася шмат чым. Жылі мы ў гасцініцы “Урал”. Перад уваходам была велізарная скульптура з назвай “Седой Урал”. Уявіце сабе гібрыднага манументальнага Ермака і Мініна з Пажарскім. З ежы ў рэстаране была гарэлка, бычыныя хвасты (нартумбрыйскага дэлікатэсу не варылі) і чамусьці нячышаныя як бы мараканскія сардыны. Гаварылі, што кітайская кантрабанда. Была для беларуса адна незвычайная радасць. Вечарам у рэстаране траісты аркестр (фано, баян і нешта духавое) іграў сам па сабе і на заказ нашу беларускую гілевічаўскую “А я лягу-прылягу” ў рытме вальса. Быў і саліст, які на добрым падпітку разы чатыры за вечар спяваў гэтую песню. Пры гэтым зала ўзрывалася лавінай апладысментаў, калі ён, расчырванеўшыся, у “расшалётанай” касаваротцы замест “край гасцінца старога” спяваў “ГАЛАВОЙ НА ДАРОГУ”. Успомнілася мне там нашае, такое ж аўтарскае ціхае і лірычнае ад Алеся Ставера “Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…”.

Запомнілася экскурсія на ЧТЗ, -- абравіятура, знаёмая нашым калгаснікам у пасляванныя гады. Гэты цяжкі гусенічны трактар патаптаў нямала беларукіх палёў, калі цэнтралізавана пастаўляўся ў Беларусь для мэтаў, з якімі цяпер спраўляюцца лёгкія колавыя “Беларусы”. На заводзе радыяцыйны фон у некаторых зонах перавышаў норму ў 10-15 разоў. Пад Чалябінскам здараліся аварыі на прадпрыемствах ВПК. На самім заводзе акрамя выпуску трактароў і танкаў праводзіліся яшчэ нейкія эксперыменты. Пра гэта гаварыў шэптам начальнік БТІ, з нашых беларускіх перасяленцаў, што быў экскурсаводам нашай невялікай групы энтузіястаў. З улікам экалогіі на экскурсію запісваліся толькі дабраахвотнікі.

ПРА БЫКА І ЛІНГВІСТЫЧНЫ ФЛІРТ

Арганізатары добра патраціліся на сувеніры і культурную праграму. Галоўным "тамбур-мажорам" канцэртнай праграмы і банкету быў вясёлы армянін, які, канферуючы заключны урачысты вечар, назваў мяне "дорогим сябром из синеокай Белоруссии", калі парторг заводу ўручаў мне дыплом 1-й ступені за "глубокое исследование проблем учета национальной специфики стран-импортеров советской продукции". (Мой рэферат быў прысвечаны колеравай сімволіцы краін Трэцяга свету, куды ў асноўным экспартаваліся вырабы нашага ММВЗ).

На банкеце маршалак-армянін правёў конкурс танца і прапанаваў дыпламантам канферэнцыі сказаць жартаўлівыя прамовы на адрас каралевы вечара. Журы канферэнцыі прысудзіла за рэфераты два дыпломы 1-й ступені – ст. навуковаму супрацоўніку Ін-та мовазнаўства АН ССР Юрыю Сарокіну. Некалі па яго ініцыятыве экспартныя "Жыгулі" пераназвалі "Лада", бо першая назва тальяцінскага аўто выклікала шмат непрыстойных асацыяцый ў некалькіх замежных мовах. Другі дыплом 1-й ступені атрымаў я.

Нас з Юрам (пазней мы з ім пасябравалі, і ён нават быў ў мяне ў гасцях у мінскай Серабранцы) прапанавалі сказаць тосты ў гонар каралевы вечара. Уявіце сабе двух маладых мужчын-петухоў … Мы абодва былі барадатыя. Тады гэта яшчэ глядзелася як фронда. Юра паставай і тварам быў нашмат цікавейшы за мяне: ростам пад 1,80, нізкі барытон. Я – 1,73, вастраносы, хвалюючыся, зрываюся на бедны абертанами фальцэт…

Але была тут адна фішка. Каралева вечара мела прозвішча БЫКАДОРАВА. Прызнаюся, імя дакладна не запомніў. Здаецца, Тамара, бо Юра, які гаварыў першы, параўноўваў імя гераіні вечара з фінікавай пальмай і нешта скампіляваў як наследаванне Купрыну: гаварыў, як 45-гадовы жарсны Салямон пра 13-гадовую Суляміту, што сустрэў у вінаградніку каля Ваал-Гамона, калі подых ветру падняў ейную сукенку і адкрыў усе пякноты нявроўнасцяў яе цела і персікавую скуру…

Гучала, як па мне, трохі няўдала. Гучала неяк па-салдацку, бо каралева ўжо была маладзіца, і, хоць вельмі прывабна танцавала на конкурсе

танца модны тады твіст, была невысокая, трожкі цяжкаватая, праўда з прыгожымі клубамі і грудзямі, якія увыдатніваліся фірменнай вадалазкай з гладкага махеру. Большасць прысутных, як казаў мне мой настаўніцкі досвед, адчувала пэўны дыскамфорт праз несумяшчальнасць вербальнай плыні з аб’ектам замілавання.

Чуючы скурай наструненую непрыхільную рэакцыю жанчын на выступ майго суперніка і прысутнасць шматлікіх патэнтазнаўцаў-перакладнікаў за банкетнымі сталамі, я вырашыў абыграць прозвішча гераіні, якая паходзіла з украінскага Херсона. Нагадаў пра генуэзкія ды венецыянскія морскія караваны, што еўрапейскімі ветразямі напаўнялі чарнаморскія порты і выказаў меркаванне, што прозвішча продкаў каралевы вечара няйнакш можа быць і водгукам гарачага сяброўства і аселасці далёкіх золатавусных і галасістых італійскіх гасцей ува ўкраінскіх стэпах і вінаградніках … Царскія вайсковыя пісарчукі маглі пераблытаць ў рэвізкіх казках пявучае італьянскае BOCCA D’ORO з чумацкім БЫКОМ, якога дамавіты мясцовы добры пасялянін мог падарыць наезджаму госцю, што зведаў непярэўліўкі ў дарозе, калі пала ягоная цяглая скаціна… І атрымаў ўдзячную мянушку-прозвішча, -- “Добры чалавек, што дарыць быкоў”.

Мяне прызналі пераможцам. Першы танец з каралевай танцаваў я. У яе быў сапраўды аксамітны грудны голас – bocca d’oro, ЗАЛАТЫ РОТ, bocca de gatuccio,-- як бярозавы коцік…